


# DISTRICTUS



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (62)
САКАВІК
2008 г.


# БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ - 90
# (1918 - 2008)




На першай старонцы змяшчаем адлюстраванні дзвюх вельмі вядомых беларускіх паштовак. На адной - дзяржаўны сцяг часоў БНР, на другой - першы ўрад БНР. Другая паштоўка была ў абарачэнні, на ёй штэмпель і марка Латвіі 1934 г. Яна была накіравана ў Беларускую гімназію Даўгаўпілса. Паштоўкі паходзяць з калекцыі Міколы Паўловіча. Збор М.Паўловіча вельмі багаты на матэрыялы аб беларусах Латвіі, у т.л. часоў Бнр. Прыйдзе час і яны будуць запатрабаваны на Браслаўшчыне.

## У нумары:




Першы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.



# Станіслаў Булак-Балаховіч




*Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!*

*Максім Багдановіч*

**Да 125-й гадавіны славутага дзеяча БНР, нараджэнца Браслаўшчыны змяшчаем артыкул з кнігі Арлова "Імёны свабоды"**

Калісьці я напісаў эсэ на вельмі актуальную тэму - "Як беларусы з кітайцамі сябруюць". Сярод згаданых там напалову легендарных і зусім фантастычных падзеяў уплішчылася і адна цалкам рэальная. Аднойчы ў 1920-м бальшавікам, карыстаючыся дзесяцікротнай перавагаю, удалося захапіць у палон невялікі аддзел кітайцаў, што ваявалі пад бел-чырвона-белым сьцягам. На чэкісцкім допыце сыны братняга народу на пытаньне пра нацыянальнасьць з гонарам адказвалі: "Пішы - беларуза!" Гэта былі байцы беларускага генерала Станіслава Булак-Балаховіча.



**Палац канца XVIII ст. сядзібы Гарадзец, дзе С.Булак-Балаховіч быў упраўляючым у 1904-14 гг.**

Чамусьці ніхто з гісторыкаў дагэтуль, здаецца, не зьвярнуў увагі на тое, што Балаховіч прыйшоў на сьвет у тым самым маёнтку Мэйшты на беларуска-літоўскім памежжы, дзе на сто трыццаць гадоў раней нарадзіўся герой 1794 году і спадкаемец Касьцюшкі ў кіраўніцтве паўстаньнем Тамаш Ваўжэцкі. А вось сам Станіслаў пра гэта, безумоўна, ведаў і натхняўся славаю выбітнага папярэдніка.

Дзейнасьць Булак-Балаховіча ў гады першай усясьветнай вайны і пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту чакае ўвасабленьня ў гістарычна-авантурным рамане, на старонках якога адлюстраваліся б дыверсійныя рэйды па нямецкіх тылах, нядоўгая служба ў Чырвонай Арміі і пераход разам са сваім палком на бок белых, захоп Пскова, абарона Эстоніі ад бальшавікоў...

У студзені 1920-га з аддзелам на паўтары тысячы шабляў генерал быў прыняты ў склад войска БНР. Ягоныя кавалерысты зьдзейсьнілі пераход з Латвіі на Палесьсе, ушчэнт разьбілі адзін з палкоў хвалёнай 1-й коннай арміі чырвоных, узялі Пінск... У лістападзе таго самага году ўжо 20-тысячная армія Булак-Балаховіча распачала імклівы наступ усьцяж Прыпяці. Ад бальшавікоў былі вызваленыя Петрыкаў, Калінкавічы, Мазыр, дзе Балаховіч (відаць, натхніўшыся прыкладам Юзафа Пілсудскага) абвясьціў сябе начальнікам незалежнай Беларускай дзяржавы...

Жывучы ў міжваеннай Польшчы, Булак-Балаховіч быў перакананым антыфашыстам, але яшчэ больш непахісным антыкамуністам, што прывяло яго разам з сынам у армію іспанскага генерала Франка. У верасьні 1939-га ён абараняў Варшаву, а затым змагаўся ў шэрагах польскага Супраціву і быў застрэлены гестапаўцамі пры спробе арышту.

Партрэт супярэчлівай, але, безумоўна, выбітнай асобы Балаховіча будзе няпоўным калі не згадаць, што генерал не толькі ўсё жыцьцё не забываў беларускай мовы, але і пісаў на ёй вершы.



**Млын на рацэ Мнюта сядзібы Гарадзец**

# Браслаўскія матэрыялы ў часопісе "Крывіч"

Мікола Паўловіч

*У вялікай бібліятэцы Міколы Талеркі знайшоўся новы рарытэт: падшыўка часопіса "Крывіч" за 1924 - 1926 гады. Выдавалі яго ў Каўнасе ўраджэнец Дзісеншчыны Вацлаў Ластоўскі і Глыбоччыны К.Дуж-Душэўскі. З задавальненнем прагістаў гэтую падшыўку. Знайшліся звесткі і з Браслаўшчыны. Цікава, што каля Опсы стала жыў Андрэй Красневіч, падпісчык і карэспандэнт гэтага часопіса. Дасылаў розныя звесткі па этнаграфіі і гісторыі сваёй мясцовасці ў рэдакцыю. З гумарам расказваюцца выпадкі з дзяцінства В.Ластоўскага, напісаныя ім самім. Галодныя дзеці разам са свіннямі раскопвалі старажытныя курганы, шукаючы мінулагодніх арэхі. Праязджаючы міма пан гэта заўважыў і доўга ў вёсцы потым расказваў сялянам, што гэтага рабіць нельга, бо гэта помнікі гісторыі. Ад бацькоў дзеці атрымалі добрую ўзбучку. У апавяданні "Пагост" (падпісаным пагашчанін) расказваецца аб гісторыі і легендах вёскі Стары Пагост. Калісьці яна была горадам пад назвай Багоцк. У некаторыя дні года горад гэты выступаў на паверхню зямлі і можна было бачыць людзей і будынкі. Усе "відавочцы" дадавалі эпізод аб "Белай Пані", што прыязджала ў горад з замка на чацвёрцы белых коней, што быў на горцы ў канцы пагосцкага возера. Штогод на Купалле многія сяляне хадзілі на гэтую горку на пошукі скарбу. Не безцікаўна адзначыць, што ў 1895 годзе тут быў выкапаны выпадкова скарб з некалькімі тысяч арабскіх манет. Каля 2-х фунтаў манет паліцыя адабрала і адаслала ў Петраград у Эрмітаж.*



**На здымку з архіва М.Паўловіча В.Ластоўскі і К.Дуж-Душэўскі ў Каўнасе**


КРЫВІЧ

* * *

Сані (Брацлаўшчына) складаюцца з гнутых палазоў, ў якія ўбіваюць капылы; капылы аднаго полаза з капыламі другога "змацоўваюцца вязамі, паверх вязоў на капылы накладаюцца намаразні (Ашмян. пав, Кукуцяўск. вол.), наклiскi (Вілкамірскі павет, Селіцкая вол.); надаўбка, - тоўсты брус, кладзецца пасярэдзіне для возкі тоўстага бярвення; падсанкі, - прыстаўныя кароткія саначкі да перавозкі доўгіх бэляк (каля Усьвята.Вітабск. губ - "касапні" "касаплі", у Галынскай валасьці, Горадзенш. - "сучкі", у Вілкамірскім павеце - карукі"). "Надаўбка" у Дзісненскім пав. - "лісіца".

* * *

Саха (запісана у Брацлаўскім павеце) складаецца: з рагача - ручак, за якія трымаюць саху; вобжаў, - дзьвёх аглабелін, за якія прывязуюць пастромкі, лапаты (у Рожанск. вол. Лідзк. пав. "падпалак"), - на якую насаджываюць лемяшы або нарогі (два); падсошніка, - папярэчкі, якая знаходзіцца пад лапатай каля лемяшоў, за падсошнік зачапляюцца іцьвіны, якія ідуць ад падсошніка, наўпоперак крыжуючыся, да вобжаў; надаўбка, - папярэчніца між вобжамі; перакладкі, разкідаць зямлю (у Горадзеншчыне "прысошнік"); падпоркі, між рагачом і лапатаю. У Лідчыне лапату завуць лемяшніца.

* * *

З маючых у нас ведамак, сабраных у Браслаўскім павеце (даўней Новаалександраўскі, Ковенскай губ), да анатоміі птушкі можамо падаць гэткія тэрміны: грахея - гдырха, гдырка, пищепровод - глонка, зоб - валё, лёгкія - ўздуншпа, ўздухі, семенник - яечнік, мышечный желудок - пуп, почкі - ныркі, клоака - кезаўка. Да тэксту анкеты мы прымушаны зрабіць папраўку. Слова "пягніцы" нам ніколі не прыходзілася чуць у народнай мове: народ кажа "сьцягны" або мускулы (сцягны і жылы").

* * *

Шланкі, тыя ж сані.

Воз або калёсы (Брацлаўшчына). Калёсы для сена - драбы (Горадз.), а так - вазок, драбкі, драбчак. У Дзісненшчыне - для сена і наагул для возкі - панарад, калёсы. Калёсы складаюцца з 4 кол, колаў, дзьвёх аглабель, галабель, ад якіх да восяў ідуць - атосы; атоса пятлёй надзяецца на вось, гэта пятля называецца гапка, на восі накладаюцца узлаўкі або падушкі (Дісненш.): драбіны закладаюцца па баках на ручкі, якія ніжнімі канцамі упушчаны ў узлаўкі (падушкі), каля іх на узлаўках ляжаць дзьве жэрдкі - аберніцы; шворан зьвязуе перадок з задком; трайніла, траніла, трамка злучае задні узлавак з пярэднім, разшчэпленым канцом ўпускаецца ў задні

узлавак, а другі, не разшчэплены ўпускаецца ў пярэдні узлавак дбо аковуецца зялезам, пры гэтым у акуцьці робіцца дзірка для шворна; развод - доўгае аглабельнае дрэўка, прымацоўваецца да узлаўка; развод мае дзіркі, у дзірку паза-заднім узлаўкам ўкладаюць затычку на патрэбную даўжыню разводу (у Горадзенск. пав "разворка"); снасць - воз, складзены толькі з пярэдка і заду з узлаўкам і разводам (разворам); загваздка усаджываецца ў канцы восяў, каб не спадалі колы; люшні - адным канцом насаджываюцца на восі, апасля затыкаецца загваздка, другі (верхні) падтрымлівае драбіны; вітка, робіцца з ялаўцу, лазы ці дроту, яна насаджываецца на люшню, абнімае верхнюю жэрдку драбіны і закладаецца на ручку; пярэдніца, вяроўка, зачэпленая абодвымі канцамі за пярэднія канцы сподy драбіны; сю абкручваюць "жэрдзь" пры ўцісканьні сена на возе; жэрдка, жэрдзь або парубень (Дзісненск. пав.), рубель (Дрысенск. пав.).

* * *

Крывічанскія назовы гвёзд. (Опса, Браслаўск. пав.). Поўнач, і наагул пару ночы, пазнаюць у нас начлежнікі па групцы гвёзд, якую называюць Сіцо ці Сітцо і вячорную гвязду называюць Вячорка і Мілавіца; раннюю гвязду - Заранка. Аб раннай і вячорнай гвёздах, баюць у нас, што яны родныя сёстры. Сем гвёзд у форме каляскі называюць Воз або Стажары. Калі Стажары аглаблёй глядзяць на зямлю, тады, кажуць, мядзьведзі на людзей не нападаюць, якія ў нас ужо і без таго пераваляліся. Млечны шлях называюць Стан і апавядаюць, што нейкае войска ў небі стаіць станам на старожы. Тры гвязды каля млечнага шляху называюць Прахі або Папрадкі. Нейкія гвёзды называюць Гняздо, Асілкі, Каруна але якія я няведаю.

*Андрэй Красьневіч.*

Дзіў. Піша нам у Рэдакцію грам. А.Красьневіч з пад Опсы Браслаўскага пав., што ў яго аколіцах: "веруць у Дзіва, называючы яго ні то нейкім богам, ні то так надпрыроднай істотай".

Наш Дзіў, гэта перажытак вельмі даўных часаў. Вэды называюць неба імем Дьяўс, а ў славянскіх помніках упамінаюць бога Дыя, Дзія нараўне з Пяруном і Хорсам: "овъ Дыю жърет, а другыи Дивии" (жаночая форма); "требу кладут... Дивъ, Перуну, Хорсу" (выпіска з Афанасьева "Поэт. воззренія Славян на природу", т. 1, б. 128). Дзіў, Дьяўс, Дзевас (літоўск.) і Дэус (лацінс. - імёны аднаго і таго-ж самага караня. Дзевас і Дэус абазначаюць у літоўцаў і лацінцаў імя Бог; калісь і ў нас слова Дзіў мела тое-ж самае значэньне, г. зн. абазначала назоў вярхоўнай мітычнай істоты, але ў хрысьціянскія часы было выціснута словам Бог.

*К. І.*

*Нашы землякі*

# ЛЮБІЎ БЕДНАСЦЬ І ПАКОРУ

*Перадрукоўваем артыкул пісьменніцы **Ірыны Жарнасек**, прысвечаны нараджэнцу Браслаўшчыны ксяндзу Францішку Апячонку. Артыкул напісаны для часопіса "Наша вера"(№2, 1998)*

Шчаслівы, кажуць, той чалавек, які завершыць свой зямны шлях у гадавое свята. Нібыта гэта добры знак неба, якое згадзілася прыняць яго менавіта ў гэтае свята. Ксёндз марыянін Францішак Апячонак адышоў у вечнасць 25 снежня мінулага года, на Божае Нараджэнне. Памёр на зямлі і нарадзіўся для неба...

Ксёндз Францішак - адзін з тых беларускіх марыянаў, якія горача і самааддана любілі родную зямлю, сваю збалелую Бацькаўшчыну, адзін з тых, хто прагнуў працаваць дзеля духовага дабра свайго народа. І адначасна ён адзін з тых, каму лёсіла большую частку свайго жыцця правесці на чужыне. Сумленна жыць, самаахвярна працаваць, але ўсё ж не на роднай зямлі, якую так горача, па-сыноўску любіў.

Ён нарадзіўся 2 снежня 1915 года ў вёсцы Крывасельцы Плюскай парафіі, што на Браслаўшчыне. Вучыўся ў родных мясцінах. Калі споўнілася шаснаццаць гадоў, пайшоў у кляштар ксяндзоў марыянаў у Друі, там адбыў навіцыят. Трэба думаць, што менавіта там, у Друйскай гімназіі, у якой ён вучыўся шэсць гадоў, будучы святар атрымаў урокі вялікай любові да роднай зямлі і яе культуры, там нарадзілася жаданне служыць Богу менавіта на роднай зямлі. На той час Друя была значным асяродкам духоўнай культуры на Беларусі. Вучыцца было ў каго. Сярод выбітных настаўнікаў - кс. Язэп Германовіч (ён жа - паэт Вінцук Адважны), кс. Андрэй Цікота, кс. Фабіян Абрантовіч, кс. Язэп Дашута, кс. Казімір Смулька, кс. Віталіс Хамёнак. Сярод гасцей, якія даволі часта прыязджалі ў Друю, - знакамітыя дзеячы Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, спявак Забэйда-Суміцкі, паэт Максім Танк. Было чаму павучыцца ў гэтых людзей. Глыбока ў сэрца будучага святара пранікла тая навука, што грунтавалася на вялікай любові і павазе да духоўнай спадчыны роднай зямлі. Гэтую навуку кс. Францішак Апячонак пранёс праз усё сваё жыццё.

З прычыны палітычных бураў і ваеннага ліхалецця яму давялося вучыцца ажно ў пяці духоўных семінарыях. Спачатку ў Вільні, потым у Польшчы. 31 сакавіка 1945 года ў Чанстахове ён атрымаў святарскае пасвячэнне. За працу, якую кс. Францішак пісаў пры Ягелонскім універсітэце, атрымаў званне магістра тэалогіі. А служыць Богу ксяндзу Францішку давялося ў розных месцах, нават - у розных краінах свету. Ён шмат працаваў з моладдзю і быў шанаваны ёю. Быў катэхетам, душпастырам, выхавацелем, яму часта даводзілася кіраваць рамонтам касцёлаў. Але дзе б ён ні жыў (ці то ў Варшаве, ці то ў Скурцы, ці то ў Глухалазах, ці то ў Лондане, ці, нарэшце, у родных Плюсах), што б ні чыніў, чым бы ні займаўся, рабіў ён тое заўсёды шчыра і ахвярна.

Ніколі яго не пакідала надзея вярнуцца ў родную Беларусь, каб яшчэ паслужыць ёй. Ведаў, як патрэбна была б на Радзіме ягоная праца. І адначасна ведаў, што гэта амаль фантастыка. Бо ў краіне ваяўнічага атэізму, якой доўгі час была ягоная Радзіма, ішла вайна з Богам: кляштар і касцёл у дарагой сэрцу Друі былі зганьбаваныя, касцёл у роднай парафіі ператвораны ў калгаснае падсобнае памяшканне, як і многія, многія іншыя святыні на Радзіме. Дык ці патрэбна там ягоная праца? Ні кроплі не сумняваўся: патрэбна! Насуперак злой і лютай сіле, якая бязлітасна знішчала любыя парасткі духоўнага, ён верыў, што прыйдзе той час, калі злая сіла адступіць перад Божай Прадбачнасцю. І тады праца святара на Радзіме будзе вышэй за ўсялякую іншую каштоўнасць. Вось толькі ці дажыве ён сам да таго часу?

Здароўе, падарванае руплівай працай, усё больш і больш нагадвала пра сябе.

Слабелі вочы, і ён быў вымушаны прасіць сваіх духоўных кіраўнікоў дазволіць яму замяніць чытанне брэвяжа на ружанец. Слабелі ногі, і так цяжка было ўжо кіраваць рамонтнымі работамі. І ўсё ж даўняя мара папрацаваць яшчэ дзеля Бацькаўшчыны не пакідала яго. Але Бог пакіраваў так, што кс. Францішак сапраўды выехаў на нейкі час з Польшчы, ды не на Беларусь, але ў - Англію. 4 кастрычніка 1981 года

ў Англіі памёр біскуп Часлаў Сіповіч, і ксяндза Францішка накіравалі на ягонае месца - для працы сярод беларускіх эмігрантаў. Здавалася б, мог бы суцешыцца гэткім паваротам у жыцці, бо працаваў нарэшце сярод землякоў. Ды ўсё ж гэта была не Радзіма. Таму мара аб вяртанні ў родныя мясціны заставалася. І была яна не дарэмнаю. Напрыканцы жыцця Божая Прадбачнасць накіравала так, што нарэшце з'явілася магчымасць паехаць на Беларусь, дзе зноў пачыналі адчыняць дзверы зганьбаваныя касцёлы. Не хапала святароў, у тым ліку не было святара і ў ягонай роднай парафіі. Не зважаючы на моцна падарванае здароўе, паехаў у родныя Плюсы з радасцю.

Землякі былі літаральна ўражаныя ягонай жыццярадаснасцю, аптымізмам, ягонымі ведамі і простай, шчырай любоўю да людзей, якіх ён вёў да Бога. А яшчэ многія не маглі надзівіцца, як гэты чалавек, пражыўшы паўстагоддзя ўдалечыні ад Радзімы, захаваў родную мову. Беларуская мова ў ягоных вуснах была надзвычай прыгожаю і натуральнаю.

Але, на жаль, нядоўга ксёндз Францішак служыў Богу на роднай зямлі. З прычыны моцна аслабленага здароўя ён быў вымушаны зноў пакінуць яе і выехаць у Польшчу. Цяпер ужо назаўсёды. Ксёндз Антоні Лось, з кім некалі яны разам прыйшлі ў Друю і з кім сяброўства падтрымлівалася ўсе гэтыя гады, узгадвае: "Ксёндз Францішак так прагнуў працаваць сярод сваіх!.. Нягледзячы на паважны ўзрост і слабае здароўе, ён часта прызнаваўся, што яго сэрца ірвецца да святарскае працы ва Беларусі. А калі ўжо не мог выконваць душпастырскіх абавязкаў, то з плачам пакідаў родны касцёл і парафіянаў. Якім жа балючым было расстанне з яго апошняй пляцоўкай працы, гэткай блізкай і дарагой яму!"

Землякі ўспамінаюць, як ксёндз Францішак жартаваў, што ўся ягоная маёмасць вельмі добра змяшчаецца ў адным чамадане - ягоным надзейным спадарожніку па жыцці. Так, за сваё жыццё ён не нажыў багатага майна. Але затое тыя, хто блізка ведаў гэтага чалавека, памятаюць, якім багатым і шчодрым было ягонае сэрца. Многія святары з удзячнасцю згадваюць, як вучыліся ў яго непадробнай пабожнасці і самаадданаму служэнню Богу. Генерал закону марыянаў кс. Адам Банецкі з удзячнасцю ўспамінае, як у свой час кс. Францішак Апячонак зрабіў шмат карыснага для фармавання яго як святара: "Дзякуючы яму я ведаю, як шмат можа даць старэйшы святар малодшаму, калі выявіць да яго зычлівую ўвагу і атуліць яго далікатным клопатам".

Духоўным ідэалам кс. Францішка быў ягоны цёзка з Асізі. Беднасць і пакора святога бедачыны з Асізі былі жыццёвым крэда кс. Апячонка. Кс. Банецкі сцвярджае: "Пан Бог багаславіў яго на гэтым шляху: ён ішоў у неба, адыходзіў ад нас сапраўды пакорны і ўбогі... Адыходзіў ціха-мірна, бо са святым спакоем прымаў убогасць і прыніжэнне, якія прынеслі яму апошнія гады яго жыцця і хвароба".

Апошнія дні свайго жыцця ён правёў у Скурцы, у тым самым, дзе некалі быў пробашчам. Цяпер жаў кляштарнай цішы былы пробашч дажываў свой век. Ягонымі апекунамі былі маладыя хлопцы, якія ў кляштары адбываюць навіцыят. Добры Пан Бог паслаў ксяндзу Францішку суцяшэнне на апошнія месяцы і дні на зямлі Цяпер у навіцыяце знаходзяцца некалькі хлапцоў з Беларусі, і ксёндз Францішак мог напрыканцы жыцця нагаварыцца з імі на роднай мове, якую ён так любіў і шанаваў. У вігілійны вечар Божага Нараджэння ён дзяліўся аплаткай з моладдзю, зычыў ім Божага блаславення і поўнай рэалізацыі свайго паклікання. Прасветлены, спакойны вярнуўся ў свой пакой - адпачыць. Але неўзабаве горлам пайшла кроў... А назаўтра ў шпіталі, у свята Божага Нараджэння, ксёндз Францішак Апячонак скончыў сваю нялёгкую, поўную выпрабаванняў, зямную пілігрымку.

**Кастусь Шыдлоўскі**

# Рарытэтныя беларускія выданні з калекцыі Браслаўскага музейнага аб'яднання

Кніжная калекцыя музея, якая зберагаецца ў асноўным фондзе, налічвае звыш 1100 адзінак. Яна складаецца з выданняў, якія ўяўляюць гістарычную і культурную каштоўнасць. Беларускі раздзел уключае сучасныя выданні з аўтографамі, даравальнымі надпісамі, выданні савецкай Беларусі 20 - 30-х гадоў XX ст, пасляваеннага перыяду, кнігі, падрыхтаваныя беларускай дыяспарай, факсімільныя перадрукі рэдкіх выданняў. Але найбольшую каштоўнасць уяўляюць беларускія выданні дарэвалюцыйнага перыяду, часоў Заходняй Беларусі і другой сусветнай вайны. Такіх кніг у музейнай калекцыі звыш 40. Падаўляючая большасць з іх - гэта сціплыя брашуркі на таннай паперы. Беларускае Адраджэнне не абапіралася на вялікія фінансавыя рэсурсы, не мела ў тыя часы дзяржаўнай падтрымкі. Кожная з беларускіх кніжак у перыяд Расійскай імперыі ці Заходняй Беларусі - плён самаахвярнай, часцей за ўсё грамадскай працы. І разлічаны гэтыя выданні былі на людзей небагатых: сялян, местачковую і вясковую інтэлігенцыю. Затое якой энергетыкай патыхае кожная, хай сабе самая сціплая беларуская кніжка!

Ёсць у музейным зборы некалькі выключэнняў. Самае выразнае з іх - кніга Вацлава Ластоўскага "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", выдадзеная ў 1926 г. за кошт Беларускага цэнтра ў Коўне, тагачаснай сталіцы незалежнай Літвы. Выданне хоць і мае мяккую вокладку, аднак уяўляе важкі том на 776 старонак вялікага фармату з укладышамі. Вацлаў Ластоўскі (1883 - 1938 гг.), нараджэнец Дзісеншчыны, адзін з карыфеяў Беларускага Адраджэння, дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, дае агляд звыш 1000 кніг, грамат, якія маюць дачыненне ад беларускага пісьменства ад X да XIX



стст. Праект вельмі прыгожай вокладкі выканаў вядомы расійскі графік і тэатральны мастак Мст. Дабужынскі (1875 - 1957 гг.), які ў 1925 - 1939 гг. жыў у Літве.

З імем В.Ластоўскага звязана яшчэ адно выданне калекцыі: "Летописецъ великого княэства литовского и жомоитского" (паводле спіску Рачынскага), якое ўбачыла свет у Коўне ў 1925 г. В.Ластоўскі быў яго рэдактарам, напісаў прадмову.

"Гісторыя крэўскай кнігі" мае добрую захаванасць і з'яўляецца бібліяграфічнай каштоўнасцю. Яшчэ большую каштоўнасць кнізе надае той факт, што паходзіць яна з бібліятэкі славутага нараджэнца Браслаўшчыны мастака Пётры Сергіевіча (1900 - 1984 гг.). Напрыканцы 80-х гадоў XX ст., ужо пасля смерці мастака, музей набыў падборку кніг з яго бібліятэкі - у асноўным пасляваенныя выданні з аўтографамі беларускіх аўтараў. У музеі трапіла таксама выданне паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", падрыхтаванае Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры (БІГК) у Вільні ў 1931 г. БІГК - культурна-асветніцкая арганізацыя, якая дзейнічала ў 1926 - 1936 гг. Гурткі інстытута з бібліятэчкамі беларускай літаратуры дзейнічалі і на Браслаўшчыне (Іказнь, Мількі, Цяцеркі, Барадзінічы).

З бібліятэкі П.Сергіевіча паходзіць і кніга яго віленскага сябра, паэта Максіма Танка "Журавінавы цьвет" (Вільня, 1937 г.). Гэта адзін з першых зборнікаў будучага класіка беларускай паэзіі. Выданне было здзейснена пры фінансавай падтрымцы КПЗБ. Кніга мае мяккую, але каляровую, рэдкую на тыя часы для беларускіх выданняў, вокладку.

Астатнія кніжкі калекцыі траплялі ў музей рознымі спосабамі. Цэлы шэраг выданняў падаравала Літоўская нацыянальная бібліятэка ў Вільнюсе, праз абменна-рэзервовыя фонды, частка атрымана ў падарунак ад сяброў музея ў Беларусі, Польшчы. Але большая частка сабрана па вёсках і мястэчках Браслаўшчыны.

Найбольш паважны век у калекцыі маюць выданні перыяду Расійскай імперыі. У тыя часы існавалі два важнейшыя цэнтры беларускага кнігадрукавання: Вільня і Санкт-Пецярбург. Вільня была цэнтрам беларускага руху. Тут у 1906 г. пачала выходзіць легендарная "Наша ніва", вакол якой згуртавалася магутнае кола адраджэнцаў. Музей мае некалькі зборнікаў, якія асобнымі брашурамі выдавала газета (№ 1, 2, 1912 г.). У зборніках лацініцай надрукаваны творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Канстанцыі Буйло, Змітрака Бядулі, Ядвігіна Ш, Цішкі Гартнага і інш. Зборнікі ўбачылі свет у знакамітай віленскай друкарні Марціна Кухты. З гэтай жа друкарні і такія кнігі музейнай калекцыі: Ядвігін Ш. "Васількі" (1914 г.), Максім Гарэцкі "Рунь" (1914 г.), Пётра Беларус "Якім Бяздольны" (1914 г.), Элаіза Ажэшка "Гедалі" (1907 г.), супольнае выданне "Нашай нівы" і суполкі "Мінчук", Усевалад Гаршын "Сыгнал, або расказ аб тым, як дабро перамагае зло ў чалавека" (1914 г.).




Ёсць у музеі адзін асобнік сельскагаспадарчага часопіса "Саха" - нумар за жнівень - верасень 1913 г. Часопіс выдадзены ў Вільні, з лістапада 1913 г. ён пачне выходзіць у Менску. Апошняе з дарэвалюцыйных віленскіх выданняў калекцыі - "Беларускі каляндар на 1916 год". Ужо ішла першая сусветная вайна, набліжаўся крах Расійскай імперыі.




У 1906-1914 гадах у паўночнай сталіцы Санкт-Пецярбургу дзейнічала першая легальная беларуская выдавецкая суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца". Кнігі лацініцай і кірыліцай друкаваліся ў польскай друкарні К.Пяткоўскага. Усяго ўбачыла свет 38 кніг. Музей мае выдадзеныя лацініцай творы Вінцука Дуніна-Марцінкевіча "Гапон" (1908 г.), "Шчараўскія дажынкі, Купала" (1910 г.), пераклад часткі паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" (1908 г.).




Больш прадстаўнічы збор выданняў пасля распаду Расійскай імперыі, сярод якіх пераважаюць віленскія. У 1919 г. у Вільні выйшла драма Францішка Аляхновіча "Страхі жыцця". На кніжцы пазначана: "Народны камісарыят

асьветы". Ф.Аляхновіч (1883-1944 гг.), вядомы беларускі драматург, у вірлівыя паслярэвалюцыйныя гады жыў то ў Менску, то ў Вільні. Кніга выйшла, відаць, у тыя веснавыя ці летнія месяцы, калі ён жыў у былой сталіцы ВКЛ. У той час Вільня стала сталіцай ЛітБелССР - прасавецкага нетрывалага дзяржаўнага ўтварэння.

У Вільні пад польскай уладай існавала актыўнае беларускае жыццё, у тым ліку развівалася выдавецкая справа. Адно з рэдкіх выданняў гэтага перыяду - пераклад "Сусветнай гісторыі" (часткі 2) В.Остэрлефа і Я.Шустэра (Вільня, 1921 г.).




Пераклад выканаў Антон Луцкевіч (1884 - 1946 гг.), адзін з выдатных дзеячаў Беларускага Адраджэння, дзеяч БНР. З 1920 г. А.Луцкевіч жыве ў Вільні, апрацаваў аднаўленне выдання газеты "Наша ніва".

Паважны выгляд мае выданне паэмы Я.Коласа "Сымон-музыка" (Вільня, 1928 г.). Кнігу павялічанага фармату, з цвёрдай вокладкай падрыхтавала выдавецкае таварыства "Пагоня". Музейны асобнік мае штэмпель беларускай кнігарні "Пагоня ў Вільні". Ёсць яшчэ адзін штэмпель "Юзаф Ермалёнак". Гэта быў селянін і добры цясляр са Слабодскай ваколіцы. Быў адукаваны, збіраў кнігі, выпісваў перыёдыку, у тым ліку беларускую. Рэшткі яго бібліятэкі з расійскімі, польскімі, беларускімі выданнямі перадалі ў музей сваякі. У калекцыі ёсць яшчэ адно саліднае па тых часах выданне Я.Коласа "Выбраныя творы" (Угадкавае выданне), падрыхтаванае Беларускім выдавецкім таварыствам (1927 г.)

Да ліку рэдкіх выданняў адносіцца першы нумар часопіса "Вучнёўскі звон" ад 20 снежня 1929 г. славутай Віленскай беларускай гімназіі, якая існавала ў 1919 - 1944 гадах. Гімназічны калектыў рыхтаваў у розныя часы шэраг выданняў. Часопіс "Вучнёўскі звон" выходзіў толькі да красавіка 1930 г.

Цікавасць уяўляе кніжка Адама Станкевіча "Доктар Францішак Скарына - першы друкар беларускі. 1525 - 1925". На старонках ёсць пячаткі гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Іказні. Дзейнасць гуртка цесна звязана з братамі Дварэцкімі, аб якіх ужо пісалася ў "Павеце". Аўтар кнігі, Адам Станкевіч (1892 - 1949 гг.), беларускі грамадскі дзеяч, каталіцкі святар. У 1917 г. ён адным з першых перайшоў на беларускія казанні ў храмах Дзісеншчыны і Браслаўшчыны.




У перыяд Заходняй Беларусі А.Станкевіч неаднойчы наведваў Браслаўшчыну, у прыватнасці Барадзінічы, дзе святаром быў яго сябар Віктар Шутовіч. Кніга А.Станкевіча ўбачыла свет у беларускай друкарні імя Ф.Скарыны. Гэту друкарню, а таксама газету "Беларуская крыніца" ("Крыніца") фінансава падтрымліваў Друйскі кляштар айцоў марыянаў. Так што часцінка ўнёску кляштара з Браслаўшчыны ёсць у многіх выданнях. За кошт "Беларускай крыніцы" надрукаваны "Голас душы. Малітоўнік для беларусаў-каталікоў". Улажыў кніжку ксёндз Канстанцін Стаповіч, ён жа паэт Казімір Сваяк (1890-1926), рэдактарам быў Адам Станкевіч. У музеі ёсць асобнік 1926 года выдання. Ёсць таксама "Кароткі катэхізіс для беларусаў" Я.Рэшэця (1927 г.). Абедзве кніжкі друкаваны лацініцай, як і аповесць Вінцука Адважнага "Хлапец" (1935 г.). Сапраўднае імя аўтара - Язэп Германовіч (1890 - 1978 гг.). Гэта беларускі пісьменнік, рэлігійны дзеяч. У 1924 - 1932 гадах быў у Друйскім кляштары, выкладаў у гімназіі.



З іншых віленскіх выданняў у калекцыі ёсць "Беларускі лемантар" С.Паўловіча (1937 г.), дзве кніжкі Адольфа Клімовіча (1900 - 1970 гг.), журналіста, выдаўца, грамадскага дзеяча: "Культура і палітыка" (рэферат да з'езда БХД, 1932 г.), "Земляробчая чытанка" (1932 г.), аповесць Ст.Грынкевіча (1902 - 1945 гг.), літаратара, грамадскага дзеяча "Царква. Помста. Вязніца." (1928 г.), М.Мілочанка "Грамадская і літаратурная дзейнасць



Ziemlarobskaja čytanka

Цёткі" (1926 г.), пераклады твораў Л.Талстога "Ці шмат чалавеку трэба зямлі" (1928 г.),паэмы М.Лермантава "Мцыры" (1924 г.). Дарэчы, паэму Лермантава пераклаў вядомы грамадскі дзеяч, паэт Макар Краўцоў, аўтар верша "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які стаў гімнам БНР (музыка М.Тарэўскага).

З перыёдыкі ў калекцыі ёсць некалькі асобных нумароў "Крыніцы", выданняў КПЗБ "Партыйнік", гадавая падшыўка часопіса "Саха" за 1930 год і адзін нумар часопіса "Калосьсе" (№ 5 (9), 1936 г.). Гэта быў літаратурна-асветніцкі часопіс, які выходзіў у 1935 - 1939 гадах раз на квартал. У рэдкалегію часопіса ўваходзілі Мікалай Шкялёнак, нараджэнец Мёршчыны і Мар'ян Пецюкевіч, нараджэнец Браслаўшчыны.

Нядаўна збор віленскіх беларускіх выданняў папоўніўся добрай захаванасці асобнікам кнігі Ф.Багушэвіча "Дудка Беларуская і Смык Беларускі". Выданне ў 1930 г. ажыццявіў БІГК да 30-годдзя смерці паэта. Крытычны нарыс напісаў А.Станкевіч.

Беларускія кніжкі друкаваліся, але ў значна меншай колькасці, і ў іншых месцах Польшчы. У калекцыі ёсць "Лемантар" Станіслава Любіч-Масўскага, выдадзены ў 1929 годзе ў Львове за дзяржаўныя грошы, у рамках падтрымкі адукацыі нацыянальных меншасцяў. С.Любіч-Масўскі (1878 - 1941 гг.), педагог, грамадскі дзеяч, аўтар трох падручнікаў. Яго "Лемантар" за шматлікія русізмы і паланізмы крытыкаваўся філолагамі. Ёсць кніга, выдадзеная ў 1936 годзе ў Варшаве "Першая навука закону Божага з беларуска-славянскім букваром (рэдактар С.Паўловіч). У Рызе ў 1927 г. убачыла свет кніга Кастуся Езавітава "Беларусы ў Латвіі", якую падрыхтавала Беларускае Выдавецтва ў Латвіі. У кнізе шмат цікавага матэрыялу пра беларускі рух у суседніх Дзвінску, Прыдруйску. Аўтар Кастусь Езавітаў (1893 - 1946 гг.), выдатны дзеяч беларускага Адраджэння, дзеяч БНР.

Асобную, праўда, невялікую групу ў зборы рарытэтных беларускіх выданняў складаюць выданні перыяду


Francis Bahuševič

Dudka Biełaruskaja

i

Smyk Biełaruski

z krytyčnym narysam

Ad. Stankieviča

Vilnia 1930

другой сусветнай вайны. Зборнік паэзіі Ларысы Геніюш "Ад родных ніў" надрукаваны ў Празе ў 1942 г. Гэта выданне Беларускага камітэту самапомачы ў Нямеччыне. Кніга выдадзена на добрай паперы, мае салідны выгляд. Другое выданне Камітэту (Берлінскі аддзел) падрыхтавана саматужным спосабам "Беларусь у песнях. Выбар з патрыятычнай паэзіі" (1942 г.). Ёсць яшчэ адзін паэтычны зборнік Наталлі Арсенневай "Сягоння". Кніга ўбачыла свет у 1944 г. у Менску, у выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі. Гэтага ж выдавецтва яшчэ адна кніга: Антон Лёсік "Беларускі правапіс" (1943 г.). Першыя тры выданні падараваны музею нашым земляком, жыхаром Варшавы Стасем Пятушкам. Завяршае агляд выданне беларускага адрыўнога календара на 1943 г. Каляндар надрукаваны ў Браславе. Асобніку, перададзенаму ў музей Вітаўтам Ермалёнкам, была прысвечана адмысловая публікацыя ў "Павеце" (№ 3, 2001 г.).




Большая частка прадстаўленай калекцыі зберагаецца ў фондасховішчы. Аднак многія выданні пабывалі на выставах. Плануецца спецыяльная выстава рэдкіх беларускіх выданняў. У пастаяннай экспазіцыі асобныя выданні выстаўлены на вітрынах з матэрыяламі пачатку XX ст., перыяду Заходняй Беларусі, у экспазіцыях, прысвечаных мастаку П.Сергіевічу, этнографу М.Пецюкевічу.

Стан значнай колькасці кніг сведчыць, што беларускія кніжкі жылі паўнацэнным жыццём, былі запатрабаваны тагачасным чытачом.

Сведчаннем запатрабаванасці беларускага друкаванага слова з'яўляецца яшчэ адзін цікавы экспанат музея: самаробная кніга, якую склалі выразкі з беларускай перыёдыкі. Захаваліся старонкі (падпісаныя ад рукі) ад 9 да 62. Пад адной вокладкай сабраны вершы, проза, парады гаспадару, народны гумар. Штампік "Jan Ciunel" падказвае, хто быў аўтарам гэтай сапраўды народнай кнігі.

«ПАВЕТ» DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)